# Тыднёвік Магілёўскі




№ 10 (125) 7 – 13 верасьня 2001 г. 80 руб.


# Ці не містычнае супадзеньне...





*Выбары практычна супалі з Днём Беларускай вайсковай Славы, які патрыёты сьвяткуюць апошнія 10 год пад Воршай, на гістарычным Крапівеньскім полі, 8 верасьня. Менавіта тут 487 гадоў таму адбылася перамога беларускага войска на чале з Канстанцінам Астрожскім над ваярамі маскоўскага цара Васіля III.*

*Гэтым разам сьвяткаваньне па ўзаемнай дамоўленасьці паміж аршанскімі і астатнімі гістарычнымі і рыцарскімі клюбамі Беларусі, Польшчы і Літвы (краінаў, якія тады й складалі дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае) перанесенае на 15 верасьня. Выбары, палічылі цяперашнія ўлюблёнцы ў родную гісторыю, ня менш важкая падзея для бягучай біяграфіі Бацькаўшчыны, чым тагачасная бітва за Волю.*

*Аматары і пачціўцы гісторыі, зразумела, не праводзяць ніякіх паралеляў. Тым ня менш яны, як аб гэтым сказаў адзін з "крапівеньскіх" актывістаў ад магілёўскай дэмакратычнай грамады Ігар Мухін, спадзяюцца сьвяткаваць верасьнёўскі Дзень у краіне, якая будзе адкрыта паважаць сваю гісторыю, свае сьвятыя постаці й імёны, свае выбітныя даты. Хаця, дадаў ён, сьвяткаваньне пройдзе 15 верасьня ў любым выпадку.*

◆

*Учора ўвечары ў абласным цэнтры на пляцоўцы каля Дыягнастычнага цэнтру адбыліся адначасова дзьве агітацыйныя акцыі. Адна – ад адзінага дэмакратычнага кандыдата У.Ганчарыка. Другая – ад Лукашэнкі. Першая была лепш афармленая і была больш шматлюдная. Мінакоў прыцягвала да паплечнікаў У.Ганчарыка разнастайнасьць выбарчых маек, у якія былі многія з агітацыйных пікетчыкаў апранутыя, стэнды з друкаванымі матэрыяламі аб сваім кандыдаце, выстаўленыя побач партрэты зьніклых у краіне працаўнікаў рэжыму. Групу агітатараў за Лукашэнку складалі, па выгляду, старшакласьнікі альбо самае большае – першакурсьнікі якой навучальнай установы. Яны сьціпла трымаліся побач з выстаўленым партрэтам свайго кандыдата і ненастойліва прапаноўвалі мінакам бэпэсэмаўскія сьцяжкі зь пячаткай у выглядзе надпісу "Я – за бацьку". На ўсё гэта паглядала, раз-пораз падштурхоўваючы юнакоў і дзяўчатаў да праяўленьня актыўнасьці, сама маладая, але строгая выкладчыца. Ганчарыкаўцы зазывалі людзей тым, што вось-вось да іх далучыцца нехта з даверанных асобаў кандыдата зь ягонага цэнтральнага штабу. Ці было тое, мы ня ведаем, бо дазволіць сабе чакаць да сканчэньня абодвух імпрэзаў не выпадала. Як ня ведаем, ці былі якія непаразуменьні, хаця думаем, што – не. Па нашай інфармацыі, у горадзе ўжо некалькі дзён знаходзяцца прадстаўнікі АБСЭ і нават афіцыйная асоба з Кангрэсу ЗША. Можна, канешне, лаяць іх з трыбуны і экрана БТ, але паважаць усё ж даводзіцца і лічыцца зь імі трэба. Вось, відаць, і была дадзеная гэтым разам міліцыі каманда нікога не чапаць...·А ці паўплывалі згаданыя акцыі на карэктыроўку выбарчых меркаваньняў магілёўцаў, асабліва тых, хто яшчэ вагаецца – даznaемся 10 верасьня. Той раніцай мы ўсе прачнемся **ў Іншай краіне**. Пры любым выніку галасаваньня.*

*Пасьля 10 верасьня краіна такой, як зараз, ужо ня будзе.*

*Улада, нават калі застанецца пэрсанальна той самай, такой ня будзе.*

*Сьвет вакол нас такім ня будзе. Нават Расея, у якую шмат хто працягвае па-свойму верыць, такой ня будзе.*

*Мы й самі станем іншымі.*

*Горшымі? Лепшымі? Канчаткова ізгоймымі? З захаванай магчымасьцю яшчэ працiснуцца ў не зусім зачыненыя дзьверы цывілізаванага чалавечага асяродзьдзя?...*

*Бог ведае. Але **не такімі як цяпер**, як сёньня. Трэба да гэтага быць гатовымі, каб не згубіць ні твару свайго, ні душы сваёй...*

***"Тыднёвік"***

## Клічаў: выбарчы зрэз

Матэрыялы, што надрукаваныя ў гэтай рубрыцы, прыйшлі да нас даволі нечакана. У нас няма ў гэтым своеасаблівым магілёўскім "мядвежым куце" карэспандэнта. Ня быў заўважаны раён у дэмакратычных праявах па лініі, як гаворыцца, якіх-небудзь вядомых грамадзкіх ці палітычных арганізацыяў. Лясная партызанская цішыня... А вось днямі ажыў наш факсавы апарат і выдаў стужку бялюткай паперы з артыкуламі, надрукаванымі на дрэннай шэрай "писчей бумаге" на сьляпой машынцы. Ня важна, аднак, як надрукавана. Важна, што надрукавана. Чытайце – на 3-й старонцы.

## Дзіўны чын "дзяржаўнага журналіста"

***Кіраўніцтва абласнога тэлерадыёаб'яднаньня высунула патрабаваньне да свайго супрацоўніка Генадзя Мартынава, каб той звольніўся "па ўласным жаданьні".***

Справа ў тым, што журналіст прыйшоў на працу апранутым у вядомую ў Магілёве майку "Скажи дураку – НЕТ!", ды яшчэ павесіў над рабочым сталом фотаплякат Ганчарыка. Таксама ён спрабаваў распаўсюдзіць яшчэ некалькі маек сярод калектыву. І вось менавіта хтосьці з таго самага калектыву паведаміў старшыні тэлерадыёаб'яднаньня Я.Мельнікаву пра экстравагантныя паводзіны аднаго зь ягоных падначаленых. Падчас сходу старшыня заявіў, што "не потерпит оборотней и двуличных людей, которые работают на государство, а думают не так, как надо". Сп.Мартынаў, аднак, звольніцца адмовіўся. Зараз ён чакае, што ж прыдумае начальнік, каб яго пазбавіцца.

А пакуль нармальна працаваць Г.Мартынаў ня можа. Да эфіру яго не дапускаюць. Між тым міліцыянты прыходзілі да яго нават дамоў, і патрабавалі напісаць тлумачэньне, адкуль ён узяў "крамольныя" майкі.

***Уласн. інф.***

## Слова ад роднага чалавека з далёкай Канады

Дарагія мае суродзічы, браты і сёстры беларусы! Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, ад якіх будзе залежаць Ваша далейшае жыцьцё, калі ня ўся будучыня краіны, хочацца падзяліцца з Вамі думкамі. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якой я маю вялікі гонар быць у гэтым мамэнце старшынёй, змагаецца ад 1918-га году за незалежную і дэмакратычную Беларусь. Шмат суродзічаў загінула ў гэтым змаганьні. Людзі аддавалі сваё жыцьцё за свабоду Беларусі зь верай, што «загляне сонца і ў нашаваконца», з надзеяй, што ў беларускай незалежнай дзяржаве народ будзе гаспадаром свайго лёсу, а не рабом у імпэрыі, якая ўжо два стагодзьдзі вынішчае ўсе беларускае.

...Людзей прывучылі маўчаць, калі арыштоўвалі іхных суседзяў, калі вывозілі ў Сібір, калі вынішчалі родную культурную спадчыну і родную мову. Шмат хто зжыўся з падобным зьдзекам над людзьмі і нацыяй, што дасюль верыць у той мітычны Саюз...

У Канадзе, дзе я жыву, нельга сабе ўявіць, каб кандыдаты на высокае дзяржаўнае становішча ня мелі такога ж доступу да радыё, тэлебачаньня, як і той, хто пры ўладзе. У Беларусі ж гвалт з боку дзяржаўнае ўлады над свабодай інфармацыі дайшоў да неверагодных памераў.

Таму я зьвяртаюся да Вас, маіх братоў і сясьцёр, у гэтую гістарычную часіну. Не магу пагадзіцца з тым, каб над Вамі зьдзекаваліся, адбіралі Вашу людзкую і нацыянальную годнасьць.

Надыходзіць час выбару альтэрнатывы дасюлешняму рэжыму ўціску, нішчэньня матэрыяльных і духоўных рэсурсаў Беларусі ды адлучэньня ад цывілізаванага сьвету. Кожны голас важны ў сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах.

Не змарнуйце яго.

Ідзеце на выбары.

Перамога дэмакратычных сілаў прыйдзе тым хутчэй, чым больш актыўным будзе кожны з Вас. Толькі ад Вас, выбарцаў, залежыць будучыня беларускай дзяржавы, будучыня Вашых дзяцей і ўнукаў. Да выбару Вас забавязвае памяць пра ўсіх тых, што аддалі жыцьцё за свабоду Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА, старшыня Рады БНР***

***Атава, Канада, 3 верасьня 2001 г.***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Невялічкі эканамічны аспэкт пачатку новага навучальнага году: школьная форма ў нашых крамах каштуе прыкладна 20 – 22 тысячы руб. Ад сёньняшняга сярэдняга заробку гэта складае амаль траціну. А калі ўлічыць, што бацькам школяроў давялося плаціць за падручнікі і вучнёўскія прылады, набываць кветкі настаўнікам – каб ня быць горш за іншых! – атрымліваецца, што ў многіх сем'ях, тым больш шматдзетных, проста не было на ўсё гэта грошай. Значыць, цягнуліся як маглі. Некаторыя з бацькоў пра тое нам і тэлефанавалі напярэдадні і пасьля 1-га верасьня. Усё ж новы навучальны год пачаўся ў нас для амаль 119 тыс. падлеткаў у 559 сярэдніх школах, 8 гімназіях, 5 ліцэях, 7 інтэрнатах.

Аблвыканкам абмеркаваў падрыхтоўку вобласьці да зімы. Балючая апошнімі гадамі тэма, бо кожны раз даводзіцца ледзь ня Богу маліцца аб больш-менш спагадлівым надвор'і, без маразоў і вятроў. Так, відаць, і сёлета будзе, бо пакуль не хапае паловы кацельнага паліва і столькі ж – дроваў і торфу для прыватнага жытла. Прычыны ўсё тыя ж: няма грошай усё гэта набыць. Напрыклад, прадпрыемствы вобласьці завінаваціліся канцэрну "Белнафтахім" ажно 24 млрд. руб. А гэты канцэрн і без таго толькі што бясплатна гнаў усё на вёску, і пакуль гэтая задача зь яго – бульба ж пачынаецца! – ня зьнятая. Зіма, канешне, ідзе – але хай бы пранесла...

Беларускае прадстаўніцтва аднаго з найбуйных міжнародных мадэльных агенцтваў "Metropolitan" шукала ў нашым абласным цэнтры дзяўчатаў для нацыянальнага конкурсу топ-мадэляў. Больш за 100 нашых прыгажуняў паспыталі свае сілы. Пакуль вынікі невядомыя. Аднак няма сумневу, што нашыя дзяўчаты здольныя ўпрыгожыць любы конкурс прыгажосьці. Ясна, што й старацца будуць як ніхто іншы. Гэта ж такі шанец пазьбегнуць нарэшце жыцьця ў бягучых умовах сваёй краіны, адкуль, на жаль, усё больш і больш моладзі імкнецца зьбегчы. Статыстыка такая зачыненая, бо сорам. Аднак азірніцеся навокал самі, узгадайце прыклады з сваёй вуліцы, дому, гораду ці нават вёскі. Ау, дзе вы, нашая прыстойная, разумная, таленавітая зьмена?

Праз усе абласныя газэты Барыс Батура павярнуўся да насельніцтва артыкулам "Тварам да чалавеку". Можна было б парадавацца падобнай скіраванасьці чыноўнага твару. Але нешта падказвае, што твар павернуты ў бок толькі аднаго чалавека. Туды, дзе ў кабінэце абласнога кіраўніка пэўна вісіць партрэт Лукашэнкі. Вось, напрыклад, сп. Батура піша: "...У цяперашніх умовах сацыяльная палітыка з'яўляецца прыярытэтным накірункам... Клапаціцца пра чалавека – адна з першаступенных задачаў...". Хто ж будзе спрачацца з тым, што так і павінна быць. Але ж ці ёсьць так? Неяк няёмка нават разглядаць гэтую тэму сур'ёзна. Калі ня ўлічваць, канешне, што да дасягненьняў адносіцца і такі паказчык, як спажываньне ў мінулым годзе насельніцтвам вобласьці (уключна немаўлятаў) больш за 11 л. чыстага спірту, што ёсьць "нормай" дэградацыі нацыі. Ад добрага жыцьця такое і нястомных клопатаў?..

Магілёўская гарадзкая мэдыцына завінавацілася бюджэту й іншым партнэрам амаль 1 млрд. руб. Абсталяваньне ў лякарнях выпрацаванае на 70% - 80%. Шмат сярод яго такога, што й не павінна ўжо скарыстоўвацца. Працуе, як ў нас водзіцца, з хітрыкаў "народных умельцаў". Толькі аб'яднаньню "Фармацыя" за лекі мэдычная ўправа вінная 200 тысячаў. А дзяржава ўсё суцішвае народ "бясплатнасьцю" перавагаў колішняга сацыялізму, якi ў нас называецца цяпер сацыяльна-арыентаваным рынкавым сацыялізмам. Тым часам мэдыцына пераходзіць на платнасьць. І правільна робіць! Толькі вось хлусіць людзям ня трэба, бо разьядае гэта чалавека іншым разам ніяк ня менш за сапраўдную фізычную хваробу.

*Сустрэнемся, спадзяюся, здаровымі, на наступным тыдні. Сымон Глазштэйн.*


У вечным беларускім чаканьні...

ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Не схіляцца душой і сумленьнем

*Днямі гасьцямі Магілёву былі Сьвятлана Алексіевіч і Ўладзімер Арлоў. Пісьменьнікі не былі прынятыя ў навучальных установах, як плянавалася паводле праекту "літаратурных гасьцёўняў", што ажыцьцяўляецца Таварыствам Беларускай мовы і Маладым Фронтам. Але, як гаворыцца, знайшліся ў абласным цэнтры добрыя людзі, што ў прыватным парадку наладзілі больш чым 2-гадзінную сустрэчу інтэлігенцыі горада з гэтымі Людзьмі й Творцамі. Розьнымі па мове, творчай манэры і грамадзянскіх праявах, але аднолькава блізкімі беларускаму сэрцу. "Тыднёвік" палічыў правільным падаць, нічога не камэнтуючы ад сябе, уступнае Слова Ўладзімера Арлова.*

*Сьвятлана Алексіевіч таксама закранала палітычную й гістарычную праблематыку, разважала пра сёньняшні дзень, але больш гаварыла пра тое, што ў дачыненьні да яе цікавіла прысутных: аб замежных назіраньнях, творчай лябараторыі, апошняй кнізе, над якой працуе (дарэчы, гэта будзе дакумэнтальная гісторыя пра Каханьне).*

*Такім чынам, уявіце, што вы ва ўтульным пакоі. Перад вамі С.Алексіевіч і Ў.Арлоў. На стале гарыць старэнькі, яшчэ керасінавы ліхтар – як сымбаль нягаснучай чалавечай думкі й еднасьці вакол яе ўсіх, хто не згубіў яшчэ жаданьня слухаць, бачыць і разважаць. Сустрэча пачынаецца...*

*Да вас зьвяртаецца ЎЛАДЗІМЕР АРЛОЎ:*


Фота Д.Новікава

СВЕТЛАНА АЛЕКСИЕВИЧ
ЧЕРНОБЫЛЬСКАЯ МОЛИТВА

– Тое, што ў нас зараз у краіне адбываецца, тлумачыцца, на маю думку, тым, што ў беларусаў адсутнічае тое, што называецца лёгікай нацыянальнага мысьленьня. Бо гэтая лёгіка фіксуецца ў нацыянальнай мове і забясьпечваецца гістарычнай памяцьцю. Па гэтых двух асноўных складніках нацыянальнай ідэі быў нанесены на працягу некалькіх апошніх вякоў нашай гісторыі вельмі адчувальны ўдар. На сёньня мы маем вельмі складаную сытуацыю, зь якой, магчыма (я веру ў гэта, як, спадзяюся, і вы), мы здолеем зрабіць першы крок на волю 9 верасьня. Мо й сапраўды прачнемся назаўтра ў новай краіне – хто ведае нас, беларусаў. Хаця, зразумела, трэба ўсьведамляць, што шанцаў на гэта ня так шмат. Але яны ёсьць, у гэтым я пераканаены. На адной з моладзевых сустрэчаў студэнтка задала мне пытаньне: няўжо мы з тых народаў, каго сам Бог асудзіў пакутваць. Ёсьць народы, якія адразу атрымалі больш-менш роўную гісторыю, не такую крутастую як наша, якія даўно жывуць, забыўшыся на нашы праблемы, а мы працягваем пакутваць. Я ведаю, што думка гэта не такая ўжо рэдкая ў нас. Аднак я з аптымізмам гляджу ў.. мінулае. Вось мой адказ на гэтае пытаньне. Я некалькі разоў на дзяржаўнай мяжы пры запаўненьні дэклярацыі рабіў такі экспэрымэнт: пісаў пра краіну паходжаньня – "ВКЛ". І спакойна праязджаў (мо таму, праўда, што ніхто гэтых дэклярацыяў не чытаў). Але ж справа ў тым, што там, у сярэднявеччы, у нас было ўсё тое ж, што было ў гісторыі заходне-эўрапейскіх і цэнтральна-эўрапейскіх краінаў. Былі гарады, як ваш Магілёў, што жылі паводле Магдэбурскага права. Была эпоха Рэнэсансу. І эпоха Рэфармацыі. Менавіта гэтыя эпохі вызначылі рух эўрапейскіх краінаў, а ў нашых усходніх суседзяў ні Рэнэсансу, ні Рэфармацыі не было. На пачатку 17-га стагодзьдзя ў нас яшчэ працягвалася эўрапейская гісторыя й адпаведнае жыцьцё. Яго справядліва называюць Залатым Векам. А потым здарылася тая самая страшная для нас вайна, у сярэдзіне 17-га стагодзьдзя, калі Беларусь страціла больш за палову свайго насельніцтва. Была вынішчаная найперш нацыянальная эліта краіны. Гарады былі абязьлюдненыя адсоткаў на 80. Была выбітая практычна дашчэнту нашая шляхта. Пасьля гэтага наша гісторыя й дае падставы думаць так, як згаданая мной студэнтка. Пасьля гэтага пачаўся заняпад радзімы нашых продкаў, які скончыўся падзелам Рэчы Паспалітай напрыканцы 18-га стагодзьдзя, калі наша краіна ВКЛ трапіла ў расейскую, а потым – у савецкую імпэрыю. Увесь гэты час вынішчаліся найлепшыя сілы нашага грамадзтва. Касьцюшка, паўстаньне 30-х гадоў 19-га стагодзьдзя, Каліноўскі, адраджэньне напачатку 20-га стагодзьдзя – заўсёды варожым сілам ўдавалася гэта перамагаць і зноў вынішчаць лепшыя нацыянальныя сілы. Тут і расстрэлы, і высылкі ў Сібір. Аднак жа ўдалося адрадзіць дзяржаву – вядомую як Беларуская Народная Рэспубліка. Не было б сёньня бяз гэтага – на жаль, кароткага пэрыяду – ніякай Рэспублікі Беларусі, а папярэдне – БССР. Даўно быў бы паўночна-заходні расейскі край. Такім чынам гісторыя паказвае, што кожны раз, перад зьнішчэньнем, Бацькаўшчына наша знаходзіць аднекуль сілы, каб ачуняць, ня даць сябе зьнішчыць цалкам і назаўсёды. Цяпер, на выклік найноўшага пэрыяду сваёй гісторыі, я веру, што мы зноў знойдзем адказ, каб выстаяць і захаваць сябе. Але для гэтага нам трэба аб'яднацца вакол адзінага сьцягу, на якім было б напісана "Беларусь". Менавіта гэта павінна нас аб'яднаць, незалежна ад нацыянальнасьцяў, бо бяз гэтага ня будзе краіны, ня будзе прыстойнага жыцьця. Так, як мы зараз, жыць нельга: колькі вакол убоства, беднасьці, безкультур'я! І колькі побач з тым прыстойнасьці і змаганьня! Дзеля гэтага мы адкладаем свае рукапісы й езьдзім па Беларусі, каб адчуць гэты нацыянальны нэрв, які жыве і б'ецца. Каб адчуць, што працуем мы таксама не дарэмна. У гэтыя часы, як цяпер у нас, пераломныя часы, няма ў творчай інтэлігенцыі права заставацца ў баку ад жыцьця, ад палітыцы. Калі нехта выбірае стаяньне ў баку, ён губляе сябе і як чалавек, і як творца. Тут нейкім чынам гэта сапраўды спалучана, што мы й бачым кожны дзень на сваім, беларускім прыкладзе. Даволі лёгка ўзгадаць, на жаль, шмат імёнаў творцаў, што цешаць сябе нібы адыходам ад злабадзённасьці, а насамрэч яны гінуць па-чалавечы і па-мастацку. Бо справа, зразумела, не ў палітыцы як такой. Справа ў адыходзе ад жыцьця, якім жыве сумленная, заўсёды меншая, частка грамадзтва. А толькі так у гісторыі і бывае. Вельмі часта, а тое й заўсёды, праўда – за меншасьцю.

## Клічаў: выбарчы зрэз



# Жыцьцё як яно ёсьць

9 верасьня – дзень, які паставіць нас перад выбарам. Што выбраць? Пагадзіцца з тым, што маем, альбо рызыкнуць? Наступны шанец будзе толькі праз 5 гадоў. Паспрабую паразважаць проста так, маючы сталы жыцьцёвы вопыт.

Любыя нашы жанчыны! Няўжо вы не стаміліся плакаць? Па неўладкаваных дзецях, па сьпіваючыхся мужах, па марна пражытым жыцьці? Прыбаўце кожная з вас яшчэ 5 гадоў такога жыцьця. Колькі ж вам будзе? 40, 50, 60...? Станьце перад люстэркам. О, мы яшчэ такія маладыя! Мы хочам быць шчасьлівымі, пакуль маладыя. Прыгожа апранацца, атрымліваць у падарунак кветкі, усьміхацца. Не ўпусьціце шанец. Адзіны. Выбірайце, пакуль ёсьць выбар!

Паважаныя мужчыны! Не чакайце, пакуль вас занясуць у "Чырвоную Кнігу". Вы такія мужныя! Мы прабачаем вас за тое, што вашы заробкі не дазваляюць вам, ідучы з работы, выпіць тры бутэлькі піва, бо гэта значна паменшыць сямейны бюджэт.

Шаноўныя нашы пэнсіянэры! Няўжо вы сапраўды лічыце, што пэнсія, атрыманая ў час, гэта нейкае дасягненьне? Гэта права гарантаванае нам Канстытуцыяй. І можа гэта адзіны артыкул, які пакуль што не парушаецца ў адносінах да вас. Я ўжо не пытаюся, чаму вы, задаволеныя пэнсіяй й маючы льготы, робіце справу праехаць "зайцам" у грамадзкім транспарце. Няўжо вы ніколі ня чулі, як скардзяцца вашы, ужо дарослыя, дзеці на тое, як цяжка ўтрымліваць сям'ю? Чаму вы, задаволеныя пэнсіяй, сьпяшаецеся ўладкавацца на працу, ня думаючы пра тое, што можа занялі месца таго, хто ў гэтым мае найпершую патрэбу? Пройдзе час, і мы назавем гэты 7-гадовы пэрыяд "Залатым пэрыядам пэнсіянэраў". Вельмі танныя, на вялікі жаль, у вас запыты. Правільна, заслужылі значна большага. Але, зыходзячы з рэальнага становішча краіны, вы сёньня аказаліся ў больш-менш выйгрышным стане, чым, напрыклад, тая жанчына, якая мае на ўтрыманьні дваіх дзяцей на заробак у 40 тыс. руб. Няўжо ў вас ніколі не балела ад гэтага сэрца? А адкуль напаўняюцца гэтыя пэнсіі? Ці ня ёсьць гэта недаданыя заробкі мэдыкаў, настаўнікаў?

А ці ўпэўненыя вы абсалютова ў тым, што пасьля 9 верасьня ня прыйдзецца некаторым з вас грызьці ўжо бяззубым ротам "кару з дрэў"? Па той простай прычыне, што сёньняшняму прэзыдэнту прыйдзецца кінуць усе сродкі (якіх няма) на падтрымку моладзі. А вы атрымаеце адно падзяку за падтрымку на выбарах.

...Калі такое было, што пэнсіянэры і моладзь аказаліся ў стане процістаяньня? Хто нас так разьядноў? Можа, надыходзіць адзіны шанец зьяднацца з сваімі ўнукамі. Бо не такая ўжо вялікая ў памерах тая пэнсія, каб дзеля яе рызыкаваць будучыняй вашых унукаў.

Ня трэба праводзіць глыбокіх эканамічных дасьледваньняў, каб заўважыць, што эканоміка ў надломе. Што фінансовы стан наогул вельмі складаны. Амаль 400 тысячаў руб. убыткаў па раёну за паўгодзьдзе.

Паважаныя калегі-настаўнікі! Мы заўсёды першымі адчувалі на сваіх плячах перамены ў грамадзтве і ў любых абставінах былі праваднікамі добрага і сумленнага на зямлі. Не забывайце пра нашае назначэньне і ў гэты складаны час.

Таварышы камуністы! Мы разам з вамі будавалі камуністычнае грамадзтва. Давайце скарыстаем наш сумесны вопыт для пабудовы новага грамадзтва, назву якому прыдумаем потым разам.

Спадары афіцэры! Калі грымяць пушкі, Музы маўчаць. Памятайце пра гэта.

Шматлікія нашы прафсаюзы, шаноўныя "раялі ў кустах"! Няўжо вы здрадзіце свайму кіраўніку й не акажаце яму падтрымку? Чакаем вас у першых радах.

...Можна яшчэ і далей паразважаць на выбарчую тэму. Я прашу прабачэньня за сваю шчырасьць. Я ня мела намеру абразіць каго-небудзь сваімі разважаньнямі, але жыцьцё ёсьць такое, якое яно ёсьць. Ад таго, як мы з вамі прагаласуем на выбарах, будзе залежаць, ці працягнецца раскол у грамадзтве. Нас і так усяго 10 мільёнаў, і не хапала, каб мы яшчэ станавіліся ворагамі.

Я вельмі жадаю дабрабыту нашым беларусам, і таму, будучы прыхільніцай Домаша, аддаю свой голас у падтрымку Ганчарыка. У імя Беларусі.

***Л.А.ГУШЧА,***
***выкладчыца***
***агра-тэхнічнага каледжу***

# Давайце ўсе разам

Прайшло 7 гадоў. 9 верасьня – дзень выбараў прэзыдэнта. І я пытаю ў сябе: а ці так мы жывем? Ці ўсё ў жыцьці можна мераць толькі тымі грашыма, якія мы атрымоўваем у якасьці заробка, дакладней, у якасьці кампэнсацыі за права вось так жыць? Чаму мы не задумваемся, які лёс чакае нашых дзяцей? Мо мы з вамі пражывем у любых умовах...

У кожнага свой адлік у жыцьці. Маці, якая пражыла вайну, мерыць усё ў параўнаньні з вайною, бабуля – у параўнаньні з тым часам, калі працавалі за "галачку", сярэдняе пакаленьне – з камуністычным пэрыядам.

Так, зрухі ёсьць. Гісторыя разьвіваецца наступальна і наперад. Ад якой кропкі будуць весьці адлік нашы дзеці, дзеці перабудовы? Што дрэннага ў тым, што яны хочуць жыць лепей за нас, што хочуць зарабляць добра? Усё пазнаецца ў параўнаньні.

Ці не глядзім мы з жахам на нашых дзяўчат, якім ужо за 25, а замуж няма за каго? Сьпіваюцца хлопцы й не гараць жаданьнем будаваць сям'ю. Няма як. Сорам завесьці дзяўчыну, таму што не хапае грошай, каб купіць далёка ня таннае марожанае. Не сьпяшаюцца дзяўчаты замуж. Бачаць, як гаруюць іх маці з бацькамі-п'яніцамі. А чаму сьпіваюцца мужчыны, ці не таму, што прыніжана іх годнасьць? А статыстыка якая? На 85 шлюбаў 75 разводаў: разьбітыя спадзяваньні, ненароджаныя дзеці.

Дык чаму мы не задумваемся аб гэтым? Чаму не жадаем нашым дзецям лепшага? Чакаем, што заўтра нешта зьменіцца. Ня зьменіцца. Мяняць і мяняцца павінны мы з вамі. Дык паможам жа агульнымі намаганьнямі нашым дзецям, нашым мужам, нашым блізкім, наогул усім тым, каму патрэбная дапамога.

Я для сябе вызначыла. Галасую за тых, хто зьбіраецца на самай справе дапамагчы нам. Аддаю свой голас за Ганчарыка, а значыць, і за Домаша.

***Ніна Пятроўна***
***ПАГІРСКАЯ,***
***камэндант студэнцкага***
***інтэрнату №2***

ЖЫЦЬЦЁ. КРАІНА. ВЫБАРЫ

# Няхай гіне сьвет, але перамагае закон

## Зварот да юрыстаў Беларусі



Уперададзень прэзыдэнцкіх выбараў я, давераная асоба кандыдата на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі Ўладзімера Ганчарыка, зьвяртаюся да вас, беларускіх юрыстаў – судзьдзяў, пракурораў, сьледчых, супрацоўнікаў органаў унутраных справаў і дзяржаўнай бясьпекі, адвакатаў, натарыюсаў, юрысконсультаў прадпрыемстваў, арганізацыяў, выкладчыкаў і студэнтаў юрыдычных інстытутаў.

Наша юрыдычная прафэсія – асаблівая. Часьцей за ўсё дзяржава менавіта нашымі рукамі ажыцьцяўляе свае шматлікія функцыі, у тым ліку й карную. Судзьдзі вырашаюць праўныя спрэчкі ў грамадзтве, могуць караць альбо мілаваць. Органы папярэдняга сьледзтва і пракуроры зьбіраюць і накіроўваюць у суды матэрыялы на тых, каго абвінавачваюць. Адвакаты прэзэнтуюць інтарэсы сваіх кліентаў ва ўсіх прававых адносінах. Юрысты рыхтуюць законы, дэкрэты, указы й іншыя праўныя акты. Яны абараняюць дзеючы правапарадак, альбо наадварот – тлумачаць неабходнасьць ягонай зьмены. Таму ад нас, ад нашай пазыцыі ў шмат чым залежыць узровень і якасьць законнасьці ў краіне, а ў канчатковым сэньсе – лёс людзей, якія трапляюць у сфэру праўнага рэгуляваньня.

Перш чым прыняць рашэньне, за каго ж аддаць свой голас на гэтых выбарах, падумайце над тым, што даў вам цяперашні рэжым, які ўмовы стварыў для працы юрыстаў?.. Упэўнены, што ніхто ня будзе адмаўляць у тым, што сёньня юрыдычная прафэсія – гэта жабрацкая зарплата і сьціплае казённае жыльлё. Гэта – бясконцыя "накачкі" за невыкананьне "паказчыкаў", што скідваюцца "зьверху". Гэта – праца пад няўсыпным наглядам уладных структураў. І гэта – заўсёды страх пазбавіцца сваёй пасады за адзін толькі неасьцярожны самастойны крок альбо спробу адстаяць сваё меркаваньне перад вышэйшым начальствам.

Па-сутнасьці, юрысты цяпер пераўтварыліся ў бяздапаможную прыслужніцу выканаўчай улады, згубілі свой аўтарытэт і гонар. Яны ня граюць ніякай самастойнай ролі ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці. Адроджанае "тэлефоннае права" на практыцы замяніла законы. Разам з адменай прынцыпу вяршэнства закону спыніла існаваньне й незалежнае правасудзьдзе. Тыя людзі, што апранаюцца ў мантыі, вельмі часта твораць не справядлівы суд, а выконваюць волю ўлады.

Трэба прызнаць, што мы прыйшлі не да прававой дзяржавы, а да праўнага разбэшчаньня. І краіна працягвае спаўзаць у змрочныя часы 30-х гадоў. І зусім ня выключана, што стаўшы трэцім разам (а менавіта так, згодна Канстытуцыі) прэзыдэнтам краіны Лукашэнка пачне праводзіць паказальныя судовыя працэсы над учорашнімі апанэнтамі, паколькі ўжо сёньня – да суда! – публічна называе іх "жулікамі", "ушывымі блохамі" і "наймітамі імпэрыялізму". Ствараць адпаведны антураж гэтым магчымым акцыям давядзецца ўсё тым жа юрыстам.

Дык ці трэба вам быць выканаўцамі і памочнікамі дзеяньняў цяперашняй групы ўлады? Ці трэба заставацца закладнікамі арганізацыі, якая не прызнае законаў ды элемэнтарных правілаў прыстойнасьці?

У вас ёсьць альтэрнатыва: выбраць шлях законнасьці і прызнаньня правоў чалавека. Менавіта такі шлях прапануе кандыдат на Прэзыдэнта Ўладзімер Ганчарык. У выпадку ягонай перамогі будзе праведзеная даўно насьпелая судовая рэформа, якая забясьпечыць вяршынства суда ў сыстэме праваахоўчых органаў, пашырыць сфэру судовага кантролю, зробіць суд асноўным гарантам правоў і свабодаў грамадзянаў. Пройдуць пераўтварэньні сыстэмаў УУС, КГБ, пракуратуры. Будзе мадэрнізаваная закратная сыстэма. Адродзяцца прыватная адвакатура і натарыят. Прафэсія юрыста стане адной з самых прэстыжных і паважальных, а наша краіна трывала ступіць на шлях дэмакратычнай прававой дзяржавы.

Юрысты, зрабіце свой выбар! Мы павінны падтрымаць ідэю пабудовы ў Беларусі прававой дзяржавы. Гэта значыць, насьпеў час сказаць дыктатуры "Не!".

***Міхаіл ПАСТУХОЎ,***
***судзьдзя Канстытуцыйнага суду Рэспублікі Беларусі (красавік 1994 – студзень 1997), Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусі***

9.09.2001 ВЫБІРАЙ

## Дакумэнт сам за сябе

*У гэтай рубрыцы мы друкуем выключна дакумэнты ў такім выглядзе, як яны да нас патрапілі. На нашае меркаваньне, дакумэнты — найлепшае адлюстраваньне гісторыі і часу, які людзі пражываюць у дадзены момант. Як паставіцца Гісторыя да праўдзівасьці дакумэнтальных сьведчаньняў часу, ці прызнае іх за поўную і дакладную праўду – гэта нікому не вядома. Сапраўды, тое, што людзі ў дадзены момант лічаць праўдай, праз пэўны час, на адлегласьці ад падзеяў – можа выглядаць іначай альбо па-просту быць пераасэнсавана. Але трэба, каб было што пераасэнсоўваць, было што вывучаць, было на чым высьвятляць: хто былі – а галоўнае – якімі былі людзі ў пэўны час Гісторыі, як паводзілі сябе, чаго хацелі. Бо менавіта гэта будзе насьледавана іхнымі нашчадкам. На гэтым будуць ісьці яны далей, альбо стаяць на месцы...*

9.09.2001 ВЫБІРАЙ

В комиссию при Президенте
Республики Беларусь Лукашенко А.Г
В прокуратуру Могилёвской области
Комитет госконтроля по
Могилёвской области
Прокурору Шкловского района
Редактору газеты «Шклоўскія
навіны»

В период апрель-май 2001 года председатель Шкловского РайПО Переход Сергей Витальевич отстроил капитальный забор для своего дома за счёт РайПО. Приблизительная сметная стоимость забора 1,2-1,5 млн. рублей в ценах 2001 года.

По приказу Перехода С.В. прорабом Воронковым процентовки не составлялись, т.к. официально указанный объект не существовал, а материалы списывались на другие объекты.

Фактически материалы Переходом С.В. были украдены и присвоены. Имеет место и фальсификация документов.

Командовал этой «стройкой» заместитель председателя Шкловского РайПО по строительству Гредель Сергей Николаевич.

За счёт средств и на оборудовании РайПО были выполнены следующие работы (с указанием исполнителей):

1. Бетонирование фундаментов под забор и рытьё ям;
2. Кладка кирпичных столбов (Савкин с подсобниками);
3. Штукатурка столбов, окраска краской и лаком (Матрёнкина – Постарнакова);
4. Устройство покрытия по столбам из оцинкованной стали
5. Обработка досок на пилораме и станках РайПО, изготовление фигурных деталей (Пахомов – Герасимов);
6. Изготовление металлических ворот с калиткой с обшивкой строганной шпунтованной рейкой (сварщик РайПО);
7. Внутренняя и наружная столярка дома Перехода С.В. производилась на оборудовании и рабочими Шкловского РайПО.

Переход С.В. ведёт себя как среднеазиатский бай, постоянно привлекая подчинённых по сути дела для рабских работ в своих корыстных личных интересах.

Например:

1. Вспашка огородов в рабочее время – водители Балаханов и Глушаков;
2. Зав. Складом Павловским производилась обрезка сада, погрузка и вывоз мусора с личного подворья (при этом машина не выписывалась);
3. Сварщиком РайПО Добранским В. в рабочее время из украденных Переходом С.В. материалов были изготовлены ёмкость и желоба под воду. При этом использовался автокран для установки упомянутой ёмкости. Оплата стоимости работы крана и материалов Переходом С.В. не была произведена.

Кроме этого, самовольно без согласования с Облпотребсоюзом, правлением РайПО и оценочной комиссией БРТИ Переход С.В. под видом устранения конкурентов с городского рынка приобрёл за 4000 долларов США полуразрушенное здание на городском рынке г. Шклова. Указанное здание ранее было продано бывшим председателем РайПО Лебединским В. теперешнему директору КСИ Облпотребсоюза Тараканову В.С.. Оплатить покупку здания Переход С.В. заставил подведомственные ему организации. Возникает вопрос о размере мзды, полученной лично Переходом С.В.

Затем Переход С.В. незаконно использовал инновационные деньги для окончания строительства вышеуказанного здания, которое самовольно определил как магазин для продажи комиссионных товаров. Строительство данного здания ведётся уже три года при нормативном сроке строительства 9 месяцев.

Далее.

Перед «Дожинками 99» по решению Шкловского райисполкома был произведён снос сапожной мастерской на городском рынке, принадлежащей на праве собственности гражданину Пасеку Н. РайПО был заключён договор с гр. Пасекой Н. о переносе принадлежащего ему строения с указанием срока – май 2000 года. Здание было построено, однако вместо передачи Пасеку Н. В нём был открыт магазин «Ритуальные услуги» предпринимателя Дубкова И., который до настоящего времени не имеет лицензию на торговлю.

Гражданин Пасека Н. умер, и его жене в судебном порядке пришлось доказывать свои права на здание. Суд был на стороне жены Пасека Н, но гражданка Пасека здание до сих пор не получила.

Далее.

Перед фестивалем «Дожинки –99» была произведена реконструкция магазина, принадлежащего совхозу «Городище». Затраты по указаной реконструкции легли на РайПО, материалы были списаны на другие объекты.

Данный магазин не взят на баланс РайПО. Половина здания с действующей холодильной камерой для хранения мясопродуктов с одобрения Перехода С.В. используется предпринимателем.

Нам хотелось бы выяснить роль Перехода С.В. в указанных вопиющих нарушениях.

Несмотря на тяжёлое финансовое положение РайПО, убытки по итогам года, систематическое невыполнение планов и т.д. и т.п. Переход С.В. ежегодно приобретает в «карманном» профкоме РайПО по сниженным ценам путёвки и 2-3 раза в год ездит отдыхать в санатории и дома отдыха.

Переход С.В. несмотря на убыточность РайПО приказал выплатить членам правления (в том числе и себе лично) премию в размере 50% должностного оклада за май 2001 года. А Общепит и УОРТП в убытках и по сей день.

Переход С.В. в личных целях использует служебную автомашину «Волга», оборудованную радиотелефоном, тонированными стёклами, коврами и т.п. Переход С.В. использует служебный автомобиль для собственных поездок на рыбалку в г. Быхов и проч., для поездок своей тёщи в г. Бобруйск. При этом не ведётся учёт выездов, фальсифицируются («откручиваются») показания спидометра. Бензин берётся у зав. базой Силиной.

В настоящее время Переход С.В. в очередной раз по льготной путёвке уехал на отдых. Служебная «Волга» находится рядом с его домом на территории хлебозавода под охраной. Водитель находится в отпуске. На всё правление РайПО остались одни разбитые «Жигули» 4-й модели, которые больше стоят, чем ездят. Специалисты РайПО вынуждены передвигаться по городу пешком по 30-иградусной жаре.

Переход С.В. регулярно «подкармливает» местную власть в лице Агеева А.М. и областное руководство Облпотребсоюза дармовой копчёной колбасой из своего миниколбасного цеха да поит коньяком, который должен идти в торты (торты коньяком и не пахнут, зато в багажнике служебной «Волги» стоит дежурный ящик).

Нас интересует, почему несмотря на то, что Правление Шкловского РайПО постоянно занимает последние - предпоследние места по Облпотребсоюзу, Переход С.В. остается незаменимым «специалистом», «непотопляемым» руководителем Шкловского РайПО?

В случае, если по изложенным в настоящем письме фактам будет произведена проверка, мы предоставим контролирующим органам массу дополнительных сведений.

Ответ просим направить по адресу:
213010, г. Шклов, ул. Советская, дом 3 «А», кв. 4
редактору газеты «Шклоўскія навіны» Щербак А.М.

С уважением работники Шкловского РайПО

/ Пахомов А./
/ Павловский М.А./
/Балахонов А./
и другие:

# На розных мовах

***Ад пачатку кампаніі па выбарах прэзыдэнта Беларусі ў нашай вобласьці мясцовыя праваабаронцы ўважліва наглядалі за ейнай хадой. Зафіксаваныя праз іх шматлікія парушэньні ўжо сталіся вядомымі міжнародным назіральнікам за выбарамі. Характар гэтых парушэньняў, а таксама іхная масавасьць (падобнае адбываецца па ўсёй краіне), хутчэй за ўсё, стануць адным з чыньнікаў таго, што выбары ня будуць прызнаныя асноўнымі эўрапейскімі ды міжнароднымі структурамі. Прыгадаем чытачам некалькі апошніх дзеяньняў праваабаронцаў і рэакцыю на іх мясцовых уладаў.***

31 жніўня дырэктар магілёўскага Праваабарончага цэнтру Сяргей Абадоўскі накіраваў заяву аб парушэньні выбарчага заканадаўства ў абласную камісію па выбарах, пракуратуру вобласьці, а таксама ў ЦВК і намесьніку Генэральнага пракурора. У ёй было адзначана, што ўчастковыя камісіі па ўсёй вобласьці апавясьцілі выбаршчыкаў пра час і месца галасаваньня шляхам накіраваньня адмысловых паштовак. У іх утрымлівалася наступная фраза: **"Если Вы не будете иметь возможности прийти на участок для голосования в день выборов, сообщаем, что, в соответствии с Избирательным кодексом Республики Беларусь, Вы можете проголосовать досрочно с 4 по 8 сентября текущего года включительно с 10 до 14 часов и с 16 до 19 часов в помещении участковой комиссии по выборам Президента Республики Беларусь".** Праваабаронца палічыў, што пададзеная вышэй цытата – гэта незаконны запіс. Па-першае, даводзіў С.Абадоўскі, участковыя камісіі ня маюць паўнамоцтваў інфармаваць выбаршчыкаў аб датэрміновым галасаваньні (арт.44 Выбарчага кодэксу). Камісія можа апавяшчаць грамадзянаў ***толькі пра дзень выбараў*** (п.4 таго ж арт.). Па-другое, і гэта галоўнае, датэрміновае галасаваньне можа адбывацца ***толькі ў выпадку, калі выбаршчык ня мае магчымасьці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцу жыхарства***. Патрэцяе, згаданы запіс уводзіць выбаршчыкаў у зман, бо фактычна даводзіць ім, што яны могуць прагаласаваць датэрмінова **зь любой нагоды**, якая перашкодзіць ім прыйсьці на ўчастак.

Канстатуючы, што ўчастковыя камісіі тлумачаць Закон на свой капыл, і распаўсюджваюць норму часткі 1 арт.54 Выбарчага кодэксу (галасаваньне па месцу знаходжаньня выбаршчыка) на датэрміновае галасаваньне, С.Абадоўскі, у прыватнасьці, прасіў адпаведныя ўладныя структуры, каб тыя абавязалі ўсе ўчастковыя камісіі даслаць усім выбаршчыкам новыя паштоўкі-паведамленьні, у якіх, акрамя ўказаньня дня выбараў 9 верасьня 2001г., дадаткова было б запісана аб тым, што прагаласаваць датэрмінова маюць права выбаршчыкі, якія ў дзень выбараў ня змогуць знаходзіцца па месцу свайго жыхарства.

У іншай сваёй заяве дырэктар МПЦ паведамляў адказных асобаў аб парушэньні заканадаўства ў Ленінскім і Цэнтральным раёнах Магілёва. Там зьявіліся ў нявызначаных дзеля гэтага месцах, а таксама ў шматлікай колькасьці, аб'явы, якія папросту, безь ніякіх тлумачэньняў Закону, заклікалі грамадзянаў прагаласаваць датэрмінова. Заклік гэты быў зроблены ад імя ўчастковых камісіяў. Пры тым згаданыя аб'явы ня ўтрымлівалі нават выходных дадзеных. Такім чынам участковыя камісіі, у парушэньне выбарчага заканадаўства, заклікалі ***ўсіх*** грамадзянаў (нават тых, хто зможа прагаласаваць 9 верасьня) прагаласаваць датэрмінова. Дырэктар МПЦ прасіў спыніць незаконную дзейнасьць участковых камісіяў, а таксама патрабаваў прыцягнуць вінаватых асобаў да адміністратыўнай адказнасьці.

Абедзьве заявы вымагалі, паводле закону, разгляду й адказу на іх на працягу трох дзён.

3-га верасьня, не дачакаўшыся адказу з адпаведных інстанцыяў, Сяргей Абадоўскі накіраваў пракурору вобласьці чарговую заяву. Гэтым разам яе падпісалі таксама старшыня Рады МПЦ У.Краўчанка й сябры Рады В.Сівуха і А.Фёдараў. Да заявы яны прыклалі "Кроніку парушэньняў заканадаўства ў часе агітацыйнай кампаніі". Кроніка гэтая сапраўды ўнушальная. Дакладней, факты, сабраныя ў ёй. Нездарма праваабаронцы канстатуюць у тэксьце заявы тое, што ***ў выніку незаконных дзеяньняў уладаў, міліцыі, бязьдзеяньня пракуратуры, залежнасьці судоў, у нашай вобласьці дэ-факта незаконна ўведзенае надзвычайнае становішча. Прынцып вяршынства права ў Магілёўскай вобласьці ня дзейнічае.***

Сярод патрабаваньняў, якія высунулі падпісанты, ёсьць наступнае: узбудзіць крымінальныя справы па фактах злоўжываньняў з боку прадстаўнікоў міліцыі й іншых пасадавых асобаў, у прыватнасьці, у дачыненьні да старшыні Клімавіцкага райвыканкаму В.Канавалава. Імя гэтага чыноўніка, дарэчы, згадваецца ў кроніцы неаднаразова. *(Пра адзін зь яговых брудных учынкаў карэспандэнт "ТМ" паведамляў у папярэднім нумары).* Першага верасьня ён проста ў райвыканкаме зьбіў незалежнага назіральніка В.Васільчанку.

Між тым, рэакцыю пракурора вобласьці А.Дудкіна прадказаць, здаецца, ня цяжка. Па словах С.Абадоўскага, якога пракурор выклікаў на гутарку, у яго склалася ўражаньне, што адказная пасадавая асоба, якая абавязаная наглядаць за выкананьнем законнасьці, ня толькі не спаўняе сваёй службы, але й абсалютна не засмучоная з нагоды шматлікіх грубых парушэньняў з боку ўладаў на працягу выбарчай кампаніі. Казаць жа пра нейкія адпаведныя пракурорскія захады на карысьць аднаўленьня законнасьці неяк і зусім няёмка. Пракурор Дудкін нават своеасаблiва дакараў праваабаронцу: ты глядзі, маўляў, як Ганчарык парушае...

*Улас. інф.*



